# Голас Радзімы

№ 21 (2007)
21 мая 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Раман ЧАРНУСЕЎ, Захар КРЫСІН, Пятро ІВАНОЎ і Пятро ЯКІМЕНКА — аднавяскоўцы. Жывуць яны ў вёсцы Горы, што на Магілёўшчыне, у Горацкім раёне. Людзі, як бачыце, пажылыя. Самаму маладому з іх, Якіменку, без аднаго году семдзесят. Іванову хутка будзе восемдзесят. Астатнім жа пайшло ўжо на дзевяты дзесятак. Усяго было на іх вяку: і радасці, і гора зведалі нямала. Старэйшыя памятаюць трывожныя гады грамадзянскай вайны. Усе чацвёра змагаліся з фашыстамі на франтах Вялікай Айчыннай — з першых дзён вайны і да перамогі. Пасля аднаўлялі разбураны гітлераўцамі калгас. Словам, жылі, чым жыў народ. Менавіта такія вось людзі і стваралі гісторыю нашай Радзімы. (Працяг фотарэпартажу з вёскі Горы змешчаны на 3-й стар.).





# ВЁСКА ПАМЯТАЕ...





Краявіды гэтых мясцін не вельмі характэрныя для Магілёўшчыны, якая вызначаецца раўніннасцю тэрыторыі. Тут жа — узгорак на ўзгорку. Амаль што як на Браслаўшчыне ці пад Навагрудкам. Таму не выпадкова вёска атрымала такую назву — Горы. Хто ж і калі ўпершыню яе так назваў, мы ўжо ніколі не даведаемся. Але тое, што яшчэ ў XII стагоддзі тут жылі людзі — факт, пацверджаны археолагамі. Каля вёскі выяўлена старажытнае паселішча з характэрнымі рысамі горада.

Трэба сказаць, што жыхары вёскі, асабліва моладзь, з вялікай павагай ставяцца да сваёй гісторыі. Усё, што мае дачыненне да Гораў, рупліва збіраецца ў музеі, які размешчаны ў школе. Праўда, рыштунак баявога каня, знойдзены археолагамі на старажытным паселішчы, сюды не трапіў. Месца для такой каштоўнасці знай[illegible]ся ў сталічным музеі. [illegible] і невялікі школьны пакойчык, сцены якога літаральна ўкрыты экспанатамі, расказвае многа цікавага. Перш за ўсё пра людзей, якія некалі жылі ў Горах і заслужылі, каб памяць пра іх захавалі ўсе наступныя пакаленні.

Мы раскажам толькі пра аднаго чалавека — Міхаіла Мандрыкава. Пражыў ён вельмі мала — усяго 32 гады. Але гэта было яркае і самаадданае жыццё, насычанае падзеямі вялікага гістарычнага значэння.

Нарадзіўся Мандрыкаў за дваццаць дзевяць год да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Але старажылы вёскі памятаюць яго толькі хлапчуком. Ён рана выправіўся ў свет: спачатку вучыўся, пасля служыў на Балтыйскім флоце, дзе і далучыўся да рэвалюцыйнай дзейнасці. Кастрычнік 1917-га Мандрыкаў сустрэў за многія тысячы кіламетраў ад дому, у Прыморскім краі. Наш зямляк быў у ліку тых, хто ўсталёўваў Савецкую ўладу ў гэтым далёкім кутку Расіі.

А потым, калі пачалася грамадзянская вайна, Уладзівастоцкая арганізацыя партыі бальшавікоў накіравала Міхаіла Мандрыкава на Чукотку для барацьбы з белагвардзейцамі. Гэта быў трыццаць другі, апошні і самы шчаслівы год яго жыцця. Там, у Анадырскім павеце, Мандрыкаў стварыў і ўзначаліў першы на Чукотцы рэўком. Ён прынёс у край дрымотнай тундры праўду Леніна і загінуў за яе ў барацьбе з контррэвалюцыяй.

У Магаданскай вобласці імем нашага земляка названы пасёлак. У сталіцы Чукоцкай нацыянальнай акругі — [illegible]адзе Анадыры ёсць в[illegible] Мандрыкава. Тут, на цэнтральнай плошчы, устаноўлены помнік яму. Пра першага камісара Чукоткі напісаны песні, вершы, паэмы. Ён герой рамана чукоцкага пісьменніка Ю. Рытхеу.

Ёсць сціплы бюст і на радзіме Міхаіла Мандрыкава — у Горах. Вёска памятае, вёска шануе імя свайго славутага земляка. Рыхтуючыся да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка, актывісты школьнага музея абнаўляюць экспазіцыю, прысвечаную Мандрыкаву.

Школьны музей расказвае і пра іншых людзей, якія ўславілі вёску, закладвалі тут падмурак новага, справядлівага жыцця, будавалі ў канцы дваццатых гадоў калгас, які зараз носіць імя Якава Свярдлова, блізкага паплечніка Уладзіміра Ільіча Леніна. ,

Гаспадарка моцная, добра забяспечана тэхнікай. Мае 100 трактароў, 50 грузавых аўтамабіляў і амаль столькі ж камбайнаў.

Сёння калгас прадае дзяржаве сотні тон мяса, малака, збожжа, лёну і штогод атрымлівае больш за два мільёны рублёў чыстага прыбытку. Будуе за гэтыя сродкі новыя фермы, купляе тэхніку, узводзіць жыллё для маладых сем'яў. Толькі за апошнія тры гады тут пабудавана больш за шэсць дзесяткаў добрых дамоў. Сёлета з'явяцца яшчэ некалькі.



**НА ЗДЫМКАХ: бюст Міхаіла МАНДРЫКАВА ў вёсцы Горы; вуліца Маладзёжная; на занятках у вучэбна-вытворчым камбінаце; старшыня калгаса Аляксандр ГЕРАСІМАЎ; у школьным музеі.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

**РАСПРАЦОЎКІ КАРДЫЁЛАГАЎ РЭСПУБЛІКІ**

# ДЫЯГНАЗ СТАВІЦЬ КАМП'ЮТЭР

**Аператар ледзь дакранулася да клавіятуры, і па зялёным полі дысплея пабеглі радкі. Пытанні, якія задаваў электронны «доктар», былі нескладаныя: вага, рост, артэрыяльны ціск... Праз паўмінуты камп'ютэр выдаў закадзіраваную інфармацыю аб стане сардэчна-сасудзістай сістэмы хворага: перадінфарктны сіндром.**

**Такую карціну мы назіралі ў лабараторыі неадкладнай кардыялогіі Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі.**

— Пры звычайным абследаванні цяжка дасягнуць падобнага эфекту, — гаворыць загадчык лабараторыі кандыдат медыцынскіх навук Л. Паланецкі. — Кожны хворы апісвае боль па-свойму, кансультанту нярэдка прыходзіцца спадзявацца на інтуіцыю. Да таго ж, скажам, ва ўмовах рэанімацыі дарагая кожная мінута — ад яе нярэдка залежыць жыццё чалавека, магчымасць папярэдзіць многія нежаданыя ўскладненні... Вось тут і выручае наша навінка — аўтаматызаваная сістэма кардыялагічнага абследавання дыягназ ставіць за адну мінуту. А звычайна на гэта траціцца амаль паўгадзіны.

За дапамогай да медыцынскай кібернетыкі звяртаецца сёння ўсё большая колькасць кардыялагічных устаноў і аддзяленняў. Кібернетыка дае магчымасць аб'ектыўна ацаніць захворванне, своечасова вызначыць яго цяжкасць, хутка прыняць рашэнне аб правядзенні інтэнсіўнай тэрапіі.

...Пераходзім у лабараторыю парушэнняў сардэчнага рытму. Старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат медыцынскіх навук Я. Нікіцін трымае ў руках тонкія, амаль бязважкія электроды. Вось ён замацоўвае іх на падрыхтаваным участку скуры пацыента, далучае да кардыярэгістратара — прыборчыка размерам з невялікі транзістарны прыёмнік. Пераканаўшыся, што запіс ЭКГ якасны, ён кладзе кардыярэгістратар у футлярчык, што вісіць на поясе пацыента, і ...развітваецца з ім на суткі.

Чалавек працуе, гуляе, спіць, і ўвесь час пазыўныя яго сэрца — электракардыясігналы — запісваюцца на магнітафонную стужку. Партатыўны кардыярэгістратар вядзе запіс на працягу 24 і больш гадзін.

— Распаўсюджаныя цяпер традыцыйныя электракардыяграфічныя даследаванні, — гаворыць Я. Нікіцін, — не задавальняюць медыкаў цалкам. І вось чаму. Падобная дыягностыка праводзіцца ў стане поўнага спакою пацыента за адносна невялікі прамежак часу. Метад новага кантролю ЭКГ дазваляе зрабіць вывады аб рабоце сардэчна-сасудзістай сістэмы пры розных узроўнях фізічнай і псіхаэмацыянальнай нагрузкі. З яго дапамогай можна выявіць кароткачасовыя парушэнні рытму сэрца, адказ «матора жыцця» на нагрузкі ў жыццёвых сітуацыях. Асабліва каштоўны метад у тых выпадках, калі хворы скардзіцца на кароткачасовае сэрцабіццё, перабоі... Зафіксаваць падобнае на звычайнай электракардыяграме даволі складана, а часам і немагчыма.

**С. БУЛАЦКІ.**

## ОРША — ВОЗ-ан-ВЛЕН: КАНТАКТЫ ПАРОДНЕНЫХ ГАРАДОЎ

# ЯКАЯ КАРЫСЦЬ?

Тым з нашых суайчыннікаў, каму даводзілася ехаць поездам з Мінска ў Маскву, напэўна запомнілася назва беларускага горада Орша. Поезд спыняецца тут позняй ноччу. Відаць толькі будынак вакзала і побач з ім помнік Герою Савецкага Саюза легендарнаму Канстанціну Заслонаву, які ўзначальваў падпольную арганізацыю на Аршанскім чыгуначным вузле ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Сам горад нагадвае аб сабе толькі мноствам агеньчыкаў, што губляюцца ў цемры.

Орша — горад старажытны, упершыню ўпамінаецца ў «Повести временных лет» пад 1067 годам. Але не здзіўляйцеся, убачыўшы, што пра даўніну тут могуць сведчыць толькі некалькі будынкаў. Як і многія гарады рэспублікі, ён быў амаль поўнасцю разбураны ў гады вайны і цяпер фактычна пабудаваны нанава. Сёння гэта сучасны буйны прамысловы цэнтр з насельніцтвам звыш ста тысяч чалавек, цэнтр Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Будуюць тут многа. Але да нядаўняга часу больш клапаціліся аб прамысловым будаўніцтве і аб тым, каб хутчэй даць людзям жыллё, чым аб прыгажосці. Таму, акрамя некалькіх цэнтральных вуліц, воблік горада размыты аднастайнымі тыпавымі дамамі. Аб гэтым з жалем гаварылі амаль усе жыхары горада, з якімі мне давялося размаўляць. Гэта зусім не значыць, што яны не любяць свой горад. Хутчэй наадварот, кожны аршанец хоча, каб Орша магла ганарыцца не толькі сваёй гісторыяй і вядомай у многіх краінах прадукцыяй мясцовых прадпрыемстваў, але і непаўторным знешнім выглядам. Многае ў гэтых адносінах ужо робіцца. Ніяк не назавеш безаблічным новы мікрараён Задняпроўе. Што тычыцца цэнтра, то, як растлумачылі ў гарвыканкоме, інтэнсіўнага будаўніцтва тут пакуль не вядзецца якраз па той прычыне, што падбіраецца неардынарны і своеасаблівы праект забудовы, які б арганічна ўпісаўся ў прыродны ландшафт. А ён у Оршы унікальны: тут сярод высокіх узгоркаў упадае ў прыгажун Днепр рака Аршыца.

У кабінет намесніка старшыні гарвыканкома Оршы Валянціна Пімчанкава мяне прывялі зусім не пытанні архітэктуры. Знаёмячыся з горадам, нечакана ўбачыў у адным з акон выстаўку французскіх кніг і аб'яву: «Бібліятэка завода «Легмаш» праводзіць агляд навінак французскай літаратуры». Спачатку не надаў гэтаму факту асаблівага значэння, хаця і здзівіўся, што ў беларускім райцэнтры праяўляюць такую цікавасць да літаратуры Францыі. Падышоўшы да кінатэатра, прачытаў на афішах аб фестывалі французскіх кінафільмаў, яшчэ адна бібліятэка прапаноўвала лекцыю і знаёмства з кнігамі, прысвечанымі 275-годдзю выдатнага французскага мысліцеля Жан Жака Русо, Палацы культуры запрашалі на дыскапраграмы «Зоркі французскай эстрады», стадыён «Лакаматыў» наладжваў спаборніцтвы па баскетболу, а басейн завода «Чырвоны барацьбіт» — па плаванню на кубкі Воз-ан-Влена. Першы ж прахожы, да якога я звярнуўся з пытаннем, растлумачыў, што Орша ўжо многа год з'яўляецца пабрацімам французскага горада Воз-ан-Влена і такія мерапрыемствы тут зусім не рэдкасць. Пазней я высветліў, што ў горадзе існуе вельмі актыўнае аддзяленне таварыства «СССР — Францыя», старшынёй якога і з'яўляецца Валянцін Пімчанкаў.

— Орша стала пабрацімам французскага горада Воз-ан-Влена 13 год назад. Тады ж было ўтворана і гарадское аддзяленне таварыства «СССР — Францыя», — расказаў Валянцін Цімафеевіч. — За гэты час нашы сяброўскія сувязі памацнелі і значна расшырыліся. Мы заключылі доўгатэрміновыя пагадненні аб культурных і грамадскіх сувязях. Частку нашай работы вы маглі бачыць самі. Цяпер мы рыхтуемся да святкавання Сусветнага дня пародненых гарадоў. Гэтае свята дружбы, узаемаразумення і давер'я праводзіцца штогод у апошнюю нядзелю красавіка. Але не думайце, што наша актыўнасць абмяжоўваецца толькі перыядам свята. У нас пастаянна праводзяцца дэкады французскай літаратуры і мастацтва, лекцыі-канцэрты па творах французскіх кампазітараў. Мы абменьваемся выстаўкамі дзіцячых малюнкаў, кніг, фотаматэрыялаў.

У французскім горадзе-пабраціме ёсць школа імя Макаранкі, вуліца У. І. Леніна, праспект горада Оршы.

У Оршы пры забудове і добраўпарадкаванні мікрараёна ў Задняпроўі плануецца адкрыццё вуліцы Воз-ан-Влена.

Усё гэта гаворыць аб добрых і трывалых сувязях нашых гарадоў, іх жыхароў. Важнае месца ў дзейнасці таварыства займае абмен дэлегацыямі. Ён дазваляе развіваць асабістыя кантакты паміж людзьмі, што садзейнічае ўмацаванню дружбы і ўзаемаразумення паміж народамі. За гэты час у Францыі пабывала дзевяць нашых дэлегацый. У іх складзе прадстаўнікі гарадскога Савета народных дэпутатаў, работнікі аховы здароўя і культуры, рабочыя і інжынеры, спартсмены, самадзейныя артысты. Адпаведна Оршу наведала дзевяць дэлегацый з Воз-ан-Влена, якім былі прадстаўлены шырокія магчымасці для азнаямлення з рознымі бакамі жыцця горада. Яны пабывалі на прадпрыемствах, у школах, ва ўстановах аховы здароўя, удзельнічалі ў вечарах дружбы, сустрэчах у калектывах.

— Не маглі б вы расказаць і пра работу французскага боку?

— У прынцыпе яна аналагічная нашай. Напрыклад, у час знаходжання беларускай дэлегацыі ў Воз-ан-Влене быў арганізаваны вечар савецка-французскай дружбы, адбыўся фестываль савецкіх фільмаў у Ронскай акрузе, а крыху пазней з выкарыстаннем перададзеных грамадскасці горада-пабраціма матэрыялаў і дакументаў аб нашым горадзе была адкрыта выстаўка. Але я б сказаў, што работа таварыства «Францыя — СССР» у Воз-ан-Влене мае большую эфектыўнасць: у Францыі людзі маюць значна менш інфармацыі пра нас, чым мы пра іх. Таму любое мерапрыемства нашых партнёраў абуджае ў многіх людзей цікавасць да Савецкай краіны, і, нарэшце, яны пачынаюць разумець. [illegible]е негатыўнае, што ім паведамлялі пра нас, далікатна гаворачы, няпраўда, што з намі можна сябраваць і весці справы. Нават мэр Воз-ан-Влена Марыс Шар'е неяк прызнаўся мне, што і сам вельмі многага не ведаў раней ні пра нашу гісторыю, ні пра сучаснае жыццё. Ну, а аб тым, якую вялікую цікавасць да нас праяўляюць у гэтым горадзе цяпер, можа сведчыць хаця б той факт, што на адкрыццё новага Палаца спорту ў Воз-ан-Влене запрашалася наша валейбольная каманда.

— Ці прыносяць вашы пабрацімскія сувязі, акрамя культурнага абмену і інфармацыі, якую-небудзь канкрэтную карысць гораду?

— Вядома. Нам ёсць чаму павучыцца адзін у аднаго. Мы, напрыклад, многае пераймаем у французскіх сяброў у вядзенні гарадской гаспадаркі, гарадскім планаванні, будаўніцтве і асабліва рамонце жылога фонду. У іх выключную цікавасць выклікаюць наша арганізацыя аховы здароўя, дашкольныя ўстановы, работы клубаў і Палацаў культуры. Думаю, што з часам з'явяцца і іншыя ўзаемныя інтарэсы. І ўсё ж асноўным у нашых сувязях я лічу тое, што яны садзейнічаюць умацаванню міру і дружбы паміж нашымі народамі, носяць антываенную накіраванасць. Адлюстроўваючы гэтыя настроі шырокіх колаў насельніцтва, гарады-пабрацімы сталі больш актыўна выступаць за адраджэнне разрадкі, у падтрымку мірных ініцыятыў СССР. Мы зноў і зноў заяўляем, што толькі сумесныя намаганні ўсіх людзей добрай волі дазволяць прадухіліць пагрозу вайны, што зарукай нашага шчаслівага жыцця можа быць мір і толькі мір на зямлі. І не выпадкова сёлета, у сувязі з 30-годдзем Сусветнай федэрацыі пародненых гарадоў, членам якой у снежні 1986 года стала і Орша, свята гарадоў-пабрацімаў праводзіцца пад дэвізам «Мір праз абмен паміж гарадамі».

**Рыгор УЛАДЗІМІРАЎ.**



**Сотні унікальных экспанатаў сабралі рабочыя і служачыя лакаматыўнага дэпо «Орша» ў музеі працоўнай і баявой славы свайго прадпрыемства. Больш за сто год назад было заснавана ў Оршы невялікае паравознае дэпо. Сёння тут буйны чыгуначны вузел рэспублікі, які забяспечвае бесперабойную перавозку пасажыраў і народнагаспадарчых грузаў. Аб слаўнай гісторыі калектыву расказваюць рэдкія дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы герояў вайны і працы.**

**НА ЗДЫМКУ: адзін з раздзелаў экспазіцыі.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**



**У ціхай затоцы.** **Фота П. НАВАТАРАВА.**

## Што? * Як? * Чаму?

**У цэнтры ўвагі міжнароднай грамадскасці Савецкі Саюз аказаўся сёння не толькі як ініцыятар мірных знешнепалітычных акцый. Несумненную цікавасць у свеце выклікае і яго ўнутранае жыццё. Але, трэба сказаць, сутнасць працэсаў, якія адбываюцца тут зараз, у большасці скажаецца буржуазнымі сродкамі масавай інфармацыі. Не так даўно, напрыклад, каментатар амерыканскай газеты «Нью-Йорк пост» дэкларатыўна абвясціў сваім чытачам: «У СССР рушыцца сацыялізм! Адбываецца пераварот...»**

**Не, шаноўны «знаўца» нашага жыцця. Не пераварот адбываецца ў нас, а**

# ПЕРАБУДОВА

У апошні час гэтае слова стала часта з'яўляцца і на старонках «Голасу Радзімы». У матэрыялах пра сельскую гаспадарку і прамысловасць, літаратуру і мастацтва, у шматлікіх навінах з розных гарадоў і вёсак мы расказваем, як у савецкім грамадстве сапраўды нарастаюць зараз новыя працэсы. Працэсы, якія нічым не нагадваюць пераварот. Яны лёгка ўкладваюцца ў кантэкст цяперашняй унутранай палітыкі Савецкай дзяржавы.

Усё пачалося з красавіка восемдзесят пятага, калі Пленум ЦК КПСС вызначыў для краіны курс паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця. Гэты курс быў пацверджаны, канкрэтызаваны і ўсебакова развіты на XXVII з'ездзе партыі. З'езд выпрацаваў праграму, якая паставіла перад савецкім народам небывалыя дагэтуль задачы. Напрыклад, рост эканамічнага патэнцыялу СССР у два разы, забеспячэнне кожнай сям'і асобнай кватэрай або індывідуальным домам за бліжэйшае пятнаццацігоддзе. Аднак, калі тэмпы росту эканомікі Савецкай краіны засталіся б такімі, якія назіраліся ў апошнія гады, тады задачы гэтыя, трэба прызнаць, былі б неажыццявімыя. Для іх ажыццяўлення патрэбен значна хутчэйшы эканамічны рост — паскарэнне. Пытанне паскарэння, такім чынам, і стала з нядаўняй пары ў цэнтр савецкай унутранай палітыкі.

Былі вызначаны яго асноўныя шляхі — выкарыстанне найноўшых дасягненняў навукі і тэхнікі; радыкальнае ўдасканаленне гаспадарчага механізму, усёй сістэмы кіравання; рэзкае павышэнне працоўнай і грамадскай актыўнасці людзей. Выйсці ж на гэтыя шляхі паскарэння можна толькі праз карэнную, рэвалюцыйную перабудову ўсіх сфер грамадскага жыцця. Так з'явілася ў нас паняцце перабудовы.

Яе праблемам, тэарэтычнаму абгрунтаванню і кірункам ажыццяўлення быў прысвечаны Пленум ЦК КПСС, які адбыўся ў студзені гэтага года і вынікі якога, асабліва па разгортванню сацыялістычнай дэмакратыі, шырока каменціраваліся за рубяжом. Тэорыя перабудовы выклікала на Захадзе шмат пытанняў. Напрыклад, ці спалучаюцца гэтыя паняцці: перабудова і сацыялізм? Адказ адзін — спалучаюцца. Якую б з задач, пастаўленых XXVII з'ездам КПСС, мы ні разглядалі — ці то радыкальная рэформа нашай эканомікі, абнаўленне сацыялістычных вытворчых адносін або пашырэнне і абагачэнне форм народаўладдзя, развіццё і паглыбленне сацыяльнай справядлівасці, — мэта кожнай з іх і ўсіх разам: больш сацыялізму. Сутнасць цяперашняй перабудовы поўнасцю адпавядае ленінскім запаветам. Пасля заваёвы ўлады пралетарыятам галоўнай задачай, лічыў У. І. Ленін, становіцца паляпшэнне ўнутранае. Менавіта яно дазваляе выяўляць і прыводзіць у дзеянне тыя гіганцкія сілы, якія тоіць у сабе рэальны сацыялізм.

Перабудова пачалася. Ва ўсіх сферах нашага жыцця ўжо сёння мы маем яе першыя вынікі. Напрыклад, аўтагаспадаркі Беларусі, скарацііўшы шэсць тысяч рабочых месцаў, унеслі вялікі ўклад у ліквідацыю дэфіцыту працоўных рэсурсаў у рэспубліцы. Рабочы з Лунінца Уладзімір Яльшаеў, па ўласнай ініцыятыве ўзначаліўшы буйны заводскі цэх, стабілізаваў яго работу, адначасова раскрыўшы свае патэнцыяльныя здольнасці кіраўніка. Каля сямі тысяч тон высакаякаснай ялавічыны стаў выдаваць у год саўгас-камбінат «Мір» Баранавіцкага раёна, дырэктара якога Аляксандра Дудука Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў на студзеньскім (1987 года) Пленуме назваў у ліку тых, чый арганізатарскі талент асабліва выявіўся ў час цяперашняй перабудовы....

Перабудова ў СССР мае не толькі ўнутранае, а і міжнароднае значэнне. Гэта яшчэ адно неабвержнае пацвярджэнне нашых мірных памкненняў, нашага прынцыповага выбару на карысць мірнага суіснавання.

Курс на перабудову ўнутры краіны, сказаў М. С. Гарбачоў, — гэта ў той жа час праграма бяз'ядзернага свету для ўсяго чалавецтва, гэта палітыка працягу Рэйк'явіка, гэта Дэлійская дэкларацыя, гэта будапешцкая ініцыятыва разам з братнімі дзяржавамі Еўропы, гэта наша гатоўнасць удзельнічаць ва ўмацаванні міру і бяспекі ў Азіі і на Ціхім акіяне.

## МНЕНИЕ СОВЕТСКОГО УЧЕНОГО

# К БЕЗОПАСНОСТИ— ЧЕРЕЗ КОНВЕРСИЮ

## I. ПРИСТУПИТЬ БЫСТРО—ЗНАЧИТ ВЫЖИТЬ

Выступая в марте 1977 года с основным докладом на первой в Западной Европе конференции по социально-экономическим аспектам разоружения в Куопио (Финляндия), я, как ученый, был твердо убежден минимум в трех чрезвычайно серьезных вещах.

Во-первых, в том, что гонку вооружений не только должно, но и на деле возможно остановить и повернуть вспять. Во-вторых, в том, что решение проблемы конверсии, то есть перевода военного производства на выпуск мирной продукции, любому государству и народу обещает колоссальные выгоды — и ни для одного не представляет неразрешимой в принципе проблемы. И, наконец, в том, что качество жизни на нашей планете в XXI веке окажется прямым производным от того, насколько быстро и эффективно нам, людям века XX, удастся совершить поворот к глубокому разоружению.

В 1977-м большинство из нас, безусловно, отдавали себе отчет в том, что ядерная война не пощадит миллионы людей. Но кто мог представить себе, что использование даже весьма небольшой части накопленных ядерных боеприпасов способно привести к глобальной экологической катастрофе? Понятие «ядерной зимы» появилось лишь в 80-е годы. В 1977 году, разумеется, было известно об угрозе несанкционированной ядерной войны, «войны по ошибке». Но кто догадывался тогда, что система «УИМЕКС», именуемая в США «электронным президентом», способна за 18 месяцев объявить 3 703 ложные тревоги? Многие из них могли оказаться стартом «последней эпидемии», началом катастрофы.

До какого-то времени выручала надежда: всякий сигнал будет перепроверен, ведь в распоряжении тех, кто должен сделать выбор между жизнью и смертью миллионов, будет 30—40 минут. Такой срок подлета межконтинентальных баллистических ракет. Мы знали, что этого достаточно для размышлений, для экстренного диалога по самому «горячему» телефону планеты; что не просто провидение, но научный и технический гений, разум человека хранят нас от непредставимого. (Бывший военный летчик, участник второй мировой войны, я действительно не могу представить себе, как выглядела бы наша Европа после залпа одной американской подводной лодки, несущей более полдюжины вторых мировых).

В марте 1977 года мы еще не знали, что курс НАТО на ядерную модернизацию оружия театра военных действий, уровень разработок нового поколения ядерного оружия, в частности оружия средней дальности, уже породили идею «двойного решения». Она была обнародована в октябре 1977-го в речи тогдашнего канцлера ФРГ Г. Шмидта. Тогда же была создана, как мы знаем сейчас, так называемая рабочая группа номер 10, в задачу которой входило рассмотрение конкретного плана ядерного перевооружения. Группа рекомендовала развернуть в Старом свете американские «Першинги-2» и крылатые ракеты. В 80-х годах те и другие действительно появились на нашем континенте: в теории — оберегая его, на практике — создав колоссальную новую угрозу и ему, и всей планете.

По характеру решаемых задач и 108 «Першингов-2», запланированных и уже полностью размещенных в Западной Европе, и 464 крылатые ракеты наземного базирования (на начало 1987 года в ряде стран Старого света были размещены 256 из них) являются по отношению к СССР оружием стратегическим. Ситуация с самого начала колоссально осложнялась тем, что подлетное время высокоточных баллистических ракет средней дальности «Першинг-2» до целей на территории СССР измеряется в минутах. Ответные меры СССР включали в себя, в частности, размещение на территории ГДР и ЧССР, по согласованию с правительствами этих стран, оперативно-тактических ракет повышенной дальности.

Традиционная система «действие—противодействие» создала в итоге ситуацию, когда у каждой стороны время на принятие чрезвычайной важности решений оказалось сведенным к минимуму. Разумеется, всерьез рассчитывать на возможность в таких условиях спокойного анализа, многократной перепроверки данных, тем более — диалога глав государств не приходится.

Советское предложение безотлагательно заключить по ракетам средней дальности (РСД) в Европе отдельное соглашение с тем, чтобы в ближайшее пятилетие сократить советские и американские РСД до нуля в Европе (оставив лишь по 100 боеголовок в азиатской части у СССР и на национальной территории у США),— это действительно исторический шаг к распутыванию сложнейшего узла, к заметному ослаблению ядерной угрозы вообще и угрозы несанкционированной ядерной войны в частности.

Напомню здесь же, что Москвой объявлено о готовности немедленно подписать соглашения по РСД вывести из ГДР и ЧССР, по согласованию с правительствами этих стран, оперативно-тактические ракеты повышенной дальности, размещенные в качестве ответных мер, и о готовности приступить к п[illegible]ворам с целью сокращения и[illegible]ной ликвидации других ракет оперативно-тактического назначения.

Но было бы непростительно за угрозой сегодняшней не разглядеть угрозы завтрашней, активно формирующейся в научно-исследовательских центрах, лабора[illegible]ях, на предприятиях, работающ[illegible] на программу «звездных войн». Чтобы оценить характер и масштабы этой угрозы, нужно четко определить истинные, а не декларативные цели тех, кто делает сегодня ставку на вывод оружия в космос. Цели же таковы: через развертывание новых ударных стратегических сил космического базирования и сочетание их с уже имеющимися и заложенными в планы Пентагона стратегическими наступательными средствами обеспечить США возможность нанесения безнаказанного удара по Советскому Союзу.

Предупреждения о том, что появление многоэшелонной американской ПРО создало бы беспрецедентную угрозу человеческой цивилизации, исходят от ученых, представляющих разные области научного знания, науку разных стран. Не повторяя всей системы аргументов, на которую они опираются, напомню вот какой: появление в космосе ударных вооружений, способных поражать объекты как в космосе, так и на земле, неизбежно будет связано с полной автоматизацией процесса принятия решений. Человек станет игрушкой в руках им же созданных роботов со сложнейшими, но склонными к роковой ошибке компьютерными «мозгами».

Меня лично уже одно это убеждает: эпоха переоценки научно-технических путей и методов решения ключевых политических проблем, и прежде всего проблемы войны и мира, подошла к логическому концу.

Сегодня яснее, чем когда бы то ни было: решение их — в политической же области; оно там, где властно заявляет о себе новое мышление. Путь к безопасности каждого лежит через обеспечение безопасности всех, через всеобщую безопасность — так формулируется один из основных постулатов, характерных для мышления, в наибольшей степени отвечающего задаче срочного поиска развязок, гарантирующих переход от мира, стоящего на пороге катастрофы, к миру, избавленному от угрозы самоуничтожения; от гонки вооружений — к конверсии.

**Александр ЕФРЕМОВ,**
**доктор исторических наук.**

---

Михаил Уманец, бывший главный инженер Ленинградской атомной электростанции, а ныне новый директор Чернобыльской АЭС, сказал тихо, со спокойной улыбкой: «Я купался в Припяти. Бассейн реки хорошо дезактивирован». Сказал, пожалуй, слишком тихо, но я сидел от него—на брифинге—в двух шагах и слышал это стеснительное (поверят ли?) признание отчетливо.

Поверить действительно нелегко. Обеспокоенность, по-человечески понятную, радиоактивными выбросами аварийного блока высказывали в отстоящих на сотни, тысячи километров странах Европы, даже на других континентах. Припять же, как говорится, под боком у взбунтовавшегося реактора. Так что же это—бравада? Показное геройство? Успокоительная пилюля встревоженным людям?

Вряд ли. Хотя бы потому, что все Каковы же эти меры? Сверхзадача, в сущности, одна: если в системе человек—машина не сработает, допустит промах человек, машина—при всех условиях—должна сама предотвратить аварию. Основные усилия в этом направлении уже предприняты. «Сделано так, что даже при грубейших ошибках персонала реактор останется под контролем автоматической системы защиты,—сообщил Михаил Уманец.—При этом никаких принципиальных конструктивных изменений реактора не потребовалось».

Не потребовалось, потому что весь предыдущий опыт эксплуатации реакторов РБМК (а они составляют половину мощностей советской атомной энергетики) убеждает в их принципиальной надежности. Все послеаварийные изменения, схематические доделки—это прежде всего перестраховка на случай субъективной ошибки. Ибо

## ЧЕРЕЗ ГОД ПОСЛЕ АВАРИИ

# ЗДОРОВЬЕ ЧЕРНОБЫЛЯ ПОПРАВЛЯЕТСЯ

мы после Чернобыля уже не те. Стала принципиально иной мера ответственности. За дела, слова, поступки. И прежде всего со стороны тех, кто с ночи 26 апреля 1986 года в должностном и профессиональном плане судьбой был приближен к трагедии.

Да, прошел год, как в ту злополучную ночь, в 1 час 23 минуты 40 секунд, оператор, пытаясь скомпенсировать серию предшествовавших нелепых в своей последовательности ошибок персонала и удержать могучую энергомашину в повиновении, нажав на пульте последнюю кнопку: АЗ[illegible]

К настоящему времени [illegible]тановлена вся цепь опасных нарушений технологического режима на 4-м блоке в процессе запланированного эксперимента. Анализ, выполненный вскоре после случившейся драмы ведущими советскими специалистами, пок[illegible], что реактор и обслуживающие [illegible] системы технически не имели сколь-нибудь заметных изъянов. С чем, кстати, согласились и многочисленные эксперты других стран, тщательно ознакомившиеся с эксплуатируемыми на ряде советских АЭС реакторами типа РБМК. Лишь одно звено в системе безопасности подобных энергетических блоков не предусмотрели его создатели—звено, блокирующее любую степень разгильдяйства и недисциплинированности со стороны человека. Здесь и порвалась цепочка. Порвалась, больно ударив концами по невесть на какой почве взращенной успокоенности в отношении атома. Были нарушены правила эксплуатации, и он не простил этого. Нажатие кнопки АЗ-5, по сигналу от которой все регулирующие стержни и стержни аварийной защиты пошли в активную зону, дабы остановить незапланированное нарастание мощности реактора, оказалось запоздалым.

### В СТРЕМЛЕНИИ К БЕЗУПРЕЧНОЙ НАДЕЖНОСТИ

«После чернобыльской аварии,—говорит заместитель директора Института по эксплуатации атомных электростанций Евгений Ларин,—ведущие советские ученые-атомщики и специалисты еще раз тщательно проанализировали технические принципы и философию, на основе которых проектировались АЭС чернобыльского образца. В 1986 году в стране все реакторы РБМК планово останавливались, чтобы можно было провести внеочередную ревизию схем и оборудования. Могу сказать, что ни одного серьезного порока, ошибки в самой идее создания таких АЭС не обнаружено. Вывод остался прежним: в системе человек—машина не сработал человек».

Может ли такой вывод успокоить общественность, притом не только советскую? Его, этот вывод, можно понять, но нельзя принять, вот в чем императив момента. Успокаивает, что эту позицию полностью разделяют те, кто ответствен за дальнейшую стратегию атомной энергетики в Советском Союзе. О том свидетельствуют принимаемые меры. Понимая, что все вправе знать их логику, компетентные лица в СССР регулярно информируют о них общественность, и особенно подробно — соответствующие органы МАГАТЭ.

правильно замечено — «мы всего лишь люди».

Суть энергичных действий в следующем. В реакторе может проявляться так называемый «положительный паровой коэффициент реактивности», что способно привести к нежелательному разгону реактора. Сейчас на всех РБМК выполнены мероприятия, исключающие их разгон при любых нарушениях технологического регламента. Второй экстренный шаг—резкое повышение быстродействия системы аварийной защиты. Например, скорость ввода стержней регулирования в активную зону по сигналам аварийной защиты (за счет модернизирования сервоприводов) увеличена почти вдвое — с 18—20 до 10—12 секунд. Предусмотрена существенная модернизация систем диагностики и регистрации параметров энергоблока, что позволит раньше и с большей степенью надежности предвидеть характер возможных отклонений от нормального режима. В числе других мер—тщательная переподготовка персонала атомных электростанций.

### ЗДОРОВЬЕ ЧЕРНОБЫЛЯ ПОПРАВЛЯЕТСЯ

Быть может, самый веский аргумент в пользу этого утверждения заключается в том, что абсолютное большинство персонала сейчас возвратилось на станцию и заняло свои рабочие места.

1-й энергоблок Чернобыльской АЭС был вновь пущен 26 сентября 1986 года. После всестороннего опробования различных систем и старательно проведенной дезактивации, разумеется. В ноябре реактор испытан в режиме номинальной мощности—1 000 МВт. В том же месяце персонал «разбудил» энергоблок № 2 и в декабре также проверил его работу на полной мощности. Все функционировало нормально.

Есть у специалистов и такой оценочный показатель качества работы станции, как коэффициент использования установленной мощности. Так вот, в первом квартале нынешнего года для вернувшихся на службу двух блоков он составил 97 процентов. С точки зрения энергетиков, весьма высокий коэффициент.

Под особым вниманием соответствующих служб—радиационная обстановка в зонах действия персонала. Анализ показал, что принятая в СССР допустимая доза облучения 5 бэр (биологический эквивалент рентгена) в год ни для кого не будет превышена.

Что касается 3-го блока, находящегося под одной крышей с потерпевшим аварию (их разделяет стена), здесь работы по проверке всех систем и конструкций еще не закончены. И это понятно — «соседство» обязывает.

Сам же неудачник, на долгие времена изолированный от окружающего мира в нашпигованном аппаратурой и фильтрами саркофаге, успокаивается. Система непрерывного контроля нагрева внутренних металлоконструкций сообщала, что в феврале максимальная температура составляла 112 градусов, в конце марта—100, сегодня уже не вскипятить и чайник. Что касается стен и крыши саркофага, то они вообще холодные: зимой на здании не таял снег.

**Олег БОРИСОВ.**

## ЗНАМЯНАЛЬНАЯ ПАДЗЕЯ Ў КНІГАВЫДАВЕЦКАЙ СПРАВЕ

# «КОЛА ДЗЁН-87»

КРУЦІЦЦА кола дзён, мільгаюць знаёмыя і малавядомыя назвы, падзеі, імёны выдатных пісьменнікаў, мастакоў, вучоных, музыкантаў, аддзеленыя ад нас стагоддзямі, і нашых сучаснікаў. «Кола дзён»—беларускі літаратурна-мастацкі каляндар на 1987 год. На нашай памяці не было ў Беларусі такога выдання, і з'яўленне яго—знамянальная падзея ў кнігавыдавецкай справе. Ідэя яго стварэння належыць гісторыку Генадзю Кахаоўскаму. Разам з ім складалі каляндар Л. Налівайка, вучоныя Я. Саламевіч і М. Чарняўскі.

Вызначыць найбольш важныя даты на канкрэтны год і па кожнай з іх даць нефармальную, неаднастайную, запамінальную інфармацыю ў артыкулах невялікага памеру—справа няпростая. У ёй складальнікам дапамагалі літаратары, мастацтвазнаўцы, мовазнаўцы, журналісты—дзесяткі спецыялістаў у самых розных галінах культуры.

Гаворачы аб новым выданні, адзін з яго складальнікаў кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч сказаў, што, хоць каляндар літаратурна-мастацкі, яны палічылі неабходным адлюстраваць у ім 70-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, таму што ў значнай ступені сваімі сённяшнімі здабыткамі і ў культуры беларускі народ абавязаны менавіта гэтай выдатнай падзеі стагоддзя. У «Коле дзён» ёсць рубрыка «Крокі Кастрычніка», якая з'яўляецца на яго старонках з лютага да лістапада, і ў ёй прасочваецца, як імкліва нарастала рэвалюцыйная бура, як умела накіроўвала партыя бальшавікоў народныя масы на барацьбу за новае жыццё, за ўладу працоўных, за права «людзьмі звацца».

Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль і народны паэт рэспублікі Пімен Панчанка—равеснікі Кастрычніцкай рэвалюцыі. І ў лёсе, і ў творчасці гэтых волатаў нашай літаратуры адлюстраваны лёс народа, з нетраў якога яны выйшлі і служэнню якому прысвяцілі сваё жыццё і творчасць. «...важная лінія творчасці Я. Брыля звязана з героем-равеснікам, прадстаўніком яго пакалення, біяграфію душы якога ён піша таксама не адно ўжо дзесяцігоддзе. Гэта інтэлігент з народа, які здолеў з годнасцю прайсці праз усе выпрабаванні эпохі, характар надзвычай уражлівы, сумленны, мужны і трывалы ў сваіх перакананнях. Найлепшае ўяўленне пра яго дае раман «Птушкі і гнёзды»,—так піша ў біяграфічным нарысе пра Янку Брыля «Найвялікшае шчасце—пісаць!» Юлія Канэ.

А Пімена Панчанку прадстаўляе яго малодшы сабрат па пяру паэт Рыгор Барадулін. «Панчанкаўскае слова, яно заўсёды нечакана выбухае—ад партызанскіх падрыўнікоў, што пад адхон эшалоны куляць умелі, непасрэдная спадчыннасць. Панчанкаўскае слова, яно глыбіннае, баравое, на ім раса з даспелых яблыкаў і з азяблай атавы роднай Бягомльшчыны—ад матулі, ад народа па душэўнай спадчыне».

Многа іншых слаўных літаратурных імён згадваецца ў «Коле дзён». Будуць сёлета адзначаны юбілеі Цішкі Гартнага, Максіма Танка, Аркадзя Чарнышэвіча, Міколы Сурначова, Рамана Сабаленкі і іншых пісьменнікаў.

Але ж беларуская гісторыя, культура, літаратура пачынаецца не з нас, і, як кожны народ, мы хочам ведаць і вывучаем сваё мінулае, карані. У адной са сваіх кніг вядомы беларускі даследчык даўніны Адам Мальдзіс пісаў, маючы на ўвазе стагоддзі XIX і XVIII і час яшчэ больш ранні: «...быў сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, было цемрашальства, але існаваў народ, які не мог не нараджаць трывалыя матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. Жыццё ішло наперад!».

І рухалі яго людзі самаахвярныя, высока свядомыя, адданыя краю, з якога яны паходзілі, дзейнасць якіх была прасякнута клопатам аб будучыні: аб тым, каб дайшло да нашчадкаў створанае, здабытае народам. 360 гадоў назад выдатны дзеяч украінскай і беларускай культуры Памва Бярында надрукаваў «Лексікон славянарускі і імён тлумачэнне». Сёння яго праца—важная крыніца вывучэння слоўнікавага складу беларускай і ўкраінскай моў XVII стагоддзя.

Усяго 15 гадоў адпусціла жыццё Рамуальду Падбярэскаму на літаратурную, грамадскую і навуковую дзейнасць, але зрабіў ён вельмі многа. У першай палове XIX стагоддзя ў Пецярбургу і Вільні ён выдаваў альманахі, на старонках якіх друкаваліся матэрыялы па археалогіі, этнаграфіі, фальклору, старажытнай гісторыі Беларусі, змяшчаліся літаратурныя творы.

Здейсніліся далёка не ўсе творчыя задумы і Ігната Храпавіцкага, але і зробленае паставіла яго на першае месца сярод даследчыкаў беларускай вуснапаэтычнай творчасці першай паловы XIX стагоддзя.

Якое б адгалінаванне нашай культуры мы ні ўзялі, яго развіццё можна прасачыць па «Колу дзён» з часоў даўнейшых да дня сённяшняга. Станаўленне тэатра—ад забельскіх шкаляроў у XVIII стагоддзі да Першага таварыства беларускай драмы і камедыі і мастацтва такіх прызнаных майстроў беларускай, ды і наогул савецкай сцэны, якімі з'яўляюцца Леанід Рахленка, Здзіслаў Стома, Фёдар Шмакаў...

Развіццё жывапісу—ад Напалеона Орды, Вікенція Дмахоўскага, Восіпа Аляшкевіча да Міхаіла Савіцкага, Васіля Шаранговіча, Леаніда Шчамялёва, Мікалая Гуціева і многіх іншых сучасных беларускіх мастакоў, рэпрадукцыі карцін якіх шырока прадстаўлены на старонках згадваемага выдання.

Не абойдзены і музычныя падзеі. 50 гадоў таму назад пачала працаваць Беларуская дзяржаўная філармонія. 80 гадоў спаўняецца з дня нараджэння прафесара Іосіфа Жыновіча, народнага артыста СССР, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага народнага аркестра БССР, які носіць яго імя. У студзені мы адзначылі 70 год з дня нараджэння народнага артыста Савецкага Саюза Мікалая Ворвулева. У 50-я гады ў беларускую оперу хадзілі «на Ворвулева», яго любілі, ім захапляліся. Артыст стварыў цэлую галерэю геraічных вобразаў у операх беларускіх кампазітараў, з поспехам выконваў лірычныя і драматычныя партыі класічнага опернага рэпертуару.

Каляндар добра, з густам аформлены. На яго старонках шмат здымкаў і малюнкаў. Кожны месяц заканчваецца прымаўкамі аб надвор'і, прагнозах на ўраджай, у якіх увасобіліся назіранні народа і яго спрадвечная мудрасць і кемлівасць.

«Кола дзён-87»—першая ластаўка. А яго складальнікі рыхтуюцца ўжо да наступнага года. Назапашаны і апрацаваны матэрыял, падабраны аўтары. Добрую справу выдання літаратурна-мастацкага календара мяркуецца працягваць.

**Д. БАБАК.**

## ПЕРШАЯ БІБЛІЯТЭКА ІМЯ НАРОДНАГА ПЕСНЯРА

# «ЧАСОЎ БУРЛІВЫХ РОДНЫ МАЦЯРЫК...»

Кожны раз, калі еду ў Вялікую Кракотку, на думку прыходзяць радкі з верша Міколы Арочкі, прысвечанага Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы імя Янкі Купалы:

**Мой цэлы свет: Вялікая Кракотка,**
**Часоў бурлівых родны мацярык.**
**Была Кракотка, як рака ў паводку.**
**Была Кракотка — гнеў, і боль, і крык...**
**...Нязломны дух... Жывая сіла мовы.**
**Жыву з тых дзён я вашаю красой.**
**Жыткевічы... Збраевіч... Трафімовіч...**
**Ля вас я грэўся словам і душой...**

Не выпадкова ў гэтых паэтычных радках Мікола Арочка ўспамінае прозвішчы Жыткевічаў, Збраевіча і Трафімовіча. Справа ў тым, што 60 гадоў назад у вёсцы Вялікая Кракотка на Слонімшчыне пры гуртку Таварыства беларускай школы /ТБШ/ вясковая моладзь заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры, якой прысвоена імя песняра беларускага народа. Арганізатарамі ТБШ і бібліятэкі ў той нялёгкі 1927 год былі Рыгор Акулевіч, Сцяпан Ігнатовіч, Васіль Трафімовіч, Сямён Жыткевіч, Павел Таўлай, Кастусь Петручэня і іншыя. Аб гэтай падзеі нават пісала газета «Наша праўда» (№ 11 ад 11 мая 1927 года). Дарэчы, што тычыцца Рыгора Акулевіча, то пазней, калі паехаў з Заходняй Беларусі, ён быў адным з арганізатараў ФРК — прагрэсіўнай арганізацыі нашых суайчыннікаў у Канадзе і рэдактарам газеты «Вестник».

Працу пачалі з таго, што сабралі сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне — хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках працаваў Сямён Акулевіч. Пры бібліятэцы адразу арганізавалі драматычны і харавы калектывы мастацкай самадзейнасці, якімі кіравалі Васіль Трафімовіч і Аляксандр Жыткевіч. За кароткі час вясковыя артысты паставілі «Паўлінку», «Раскіданае гняздо», «Прымакі», «На [illegible]» Янкі Купалы, вадэвіль Л. Родзевіча «Збянтэжаны Саўка» і іншыя п'есы. Выручаныя ад пастановак грошы ішлі ў фонд бібліятэкі.

Найбольшае папаўненне бібліятэка атрымала ў канцы 1928 года, калі кніжны фонд склаў адну тысячу назваў кніг. У гэтым была вялікая заслуга і кракоцкіх камсамольцаў.

Праіснаваўшы каля двух гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў 1929 годзе была зачынена польскай паліцыяй, а кнігі канфіскаваны. Затым пачаліся рэпрэсіі супраць актывістаў, многіх без суда і следства кінулі ў канцлагер Картуз-Бяроза.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года ў вёсцы Вялікая Кракотка гэтую слаўную купалаўскую бібліятэку зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена — ужо гітлераўскім нашэсцем. Многія чытачы сталі партызанамі, помсцілі ворагам за сваю зямлю і Радзіму.

Новае нараджэнне Вялікакракоцкая бібліятэка атрымала пасля вайны, у жніўні 1946 года, калі аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца» паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана назначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. І аднавяскоўцы не памыліліся. Трыццаць гадоў прапрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё для таго, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы. Хто толькі не пабываў у бібліятэцы, хто толькі не выступаў перад працаўнікамі сельскай гаспадаркі са словамі ўдзячнасці і павагі да роднага слова, да мудрага Купалы! Тут сустракалі Петруся Броўку, Янку Брыля, Міколу Аўрамчыка, Сяргея Грахоўскага, Рыгора Няхая, Міколу Арочку, Алега Лойку, Янку Саламевіча, Пятра Прыходзьку, Сяргея Панізніка і многіх іншых. Аб гэтым сведчаць і водгукі наведвальнікаў. Вось адзін з іх: «З вялікім хваляваннем я наведаў дарагі куток, які звязаны з іменем вялікага Купалы. Радасна і прыемна адчуць, што ён нёс і нясе ў народ мастацкае слова і з'яўляецца прапагандысцкім кутком ведаў на вёсцы. 28.05.67 г. Мікола Аўрамчык».

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957-м прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі.

Сустрэчы з гэтай жанчынай Аляксандр Жыткевіч заўсёды ўспамінае з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй. Яна была вельмі задаволена, што бібліятэка носіць імя Янкі Купалы. Дзякуючы жонцы вялікага паэта, для бібліятэкі прыслалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак, а ў 1952 годзе — Якуб Колас...

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



**Жыхары і госці Полацка з цікавасцю пазнаёміліся з выстаўкай нацюрморта, арганізаванай Саюзам мастакоў СССР. Такія вернісажы ў горадзе сталі традыцыйнымі. Тут экспанаваліся лепшыя работы савецкіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, творы майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**
**НА ЗДЫМКУ: у зале выстаўкі.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

# У БОХУМ, НА ФОРУМ ЛЯЛЕЧНІКАЎ

Вось ужо больш за 20 гадоў веснавымі майскімі днямі заходнегерманскі горад Бохум ператвараецца ў адзін з цэнтраў міжнароднага культурнага жыцця. Менавіта сюды з усяго свету з'язджаюцца на фестываль прафесійныя і аматарскія тэатры лялек, каб прадэманстраваць сваё мастацтва.

Дзяржаўны тэатр лялек БССР — першы савецкі тэатр, які запрошаны ў ФРГ для ўдзелу ў гэтым міжнародным фестывалі. Калектыў тэатра пакажа новую версію старой беларускай п'есы-казкі «Дзед і жораў» В. Вольскага.

Цяперашняя — сёмая — пастаноўка «Дзеда і жорава» адрозніваецца ад папярэдніх паваротам да фальклорных крыніц беларускага лялечнага тэатра «батлейка». Пастаноўку спектакля ажыццявіў галоўны рэжысёр тэатра А. Ляляўскі.

## СА СТАРАЖЫТНЫХ ЛЕГЕНД І ПАДАННЯЎ

# ЯКІ ЁН, ЗМЯІНЫ ЦАР?

З даўніх часоў людзі пакланяліся грому і ветру, сонцу і дрэвам, камяням і жывым істотам. З цягам часу гэтыя своеасаблівыя абрады відазмяняліся, дапаўняліся нейкімі новымі рысамі і дзеяннямі, і таму да нас яны дайшлі далёка не ў першапачатковым выглядзе. Многія з іх зусім забыты людзьмі, іншыя — захаваліся ў дробных часцінках, якія можна скласці ў адзінае цэлае толькі дзякуючы запісам фальклярыстаў, этнографаў ды вусным апавяданням, што з задавальненнем расказваюць нашы бабулі і дзядулі. Да такіх напаўзабытых абрадаў адносіцца пакланенне старажытных беларусаў звычайнаму вужу.

Сёння цяжка сцвярджаць, дзе менавіта схаваны карані народнага пакланення, але, тым не менш, у многіх беларускіх казках, легендах упамінаецца славуты змяіны цар з залатой каронай на галаве. Зрэдку ён выступае ў ролі ляснога ўладара, які ўмешваецца ў жыццёвыя справы людзей, як нейкая страшная істота. Але часцей за ўсё вужы ў казках з'яўляюцца разумнымі дарадчыкамі, якія могуць знайсці выйсце з самага цяжкага становішча. У народзе лічылася, што толькі варажбіты і чараўнікі не баяцца змяінага цара, нават знаходзяцца ў яго на службе, за што той вельмі шчодра іх узнагароджвае. Вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч так пісаў аб гэтым у вершы «Змяіны цар»:

**Ў полі, ў лесе нам усюды**
**Праляглі дарожкі!**
**Йстужкай рушымся між пушчы,**
**На сам перад — я.**
**Зіхацяць маёй кароны**
**Залатыя рожкі,**
**Цёмным бляскам адлівае**
**Ўся луска мая.**
**Нам не трэба ні ад чога**
**Ноччу абароны:**
**Убачыць знахар — пуць усцеле**
**Белым палатном;**
**Залаты ражок яму**
**Я ўраню з кароны**
**І па белай палатніне**
**Дальш мы папаўзём.**

Да таго ж кемлівыя людзі заўважылі, што шкуркі некаторых рэптылій выкарыстоўваліся медыкамі ці народнымі лекарамі ў прыгатаванні лекаў, а царкоўнікі, каб запужаць просты люд, унушалі — што, маўляў, гэтыя істоты дапамагаюць ім варажыць і насылаць хваробы на іншых.

Што датычыць «залатой кароны» на галаве вужа, то зараз гэтую з'яву можна вельмі лёгка растлумачыць. Два-тры разы за летні перыяд вужы, як і гадзюкі, ліняюць. Перад лінькай яны труцца мордачкай аб зямлю, розныя прадметы да таго часу, пакуль скура не трэсне і не пачне аддзяляцца ад пярэдняй часткі галавы. У выніку з'яўляюцца дзве паласці — адна на верхняй часткі галавы, другая — на ніжняй. Менавіта яны і ствараюць так званую карону, якую людзі і заўважылі на галовах не паспеўшых пераліняць вужоў.

У народзе існуе такое павер'е, што восенню, перад цяжкай зімоўкай, вужы і гадзюкі збіраюцца ў вялізныя клубкі. Пераплятаюцца яны так цесна, што немагчыма знайсці галаву і хвост кожнага з іх. Сцвярджаюць яшчэ таксама, што вужы і гадзюкі залазяць на дрэвы і адтуль развітваюцца з наваколлем да будучай вясны. Спаўзаюць яны ў асноўным у дубовыя гаі. На ўспрыняцце людзей, якія маглі бачыць такое зборышча, часам вельмі моцна ўздзейнічала і сама прырода: шумеў вецер, нешта шаптала лістота, і таму здавалася, што ўсе нячыстыя здані збіраліся на сваё гулянне ў гэтым месцы.

Асабліва многа легенд, у якіх апавядаецца пра розныя цудадзейныя магчымасці вужоў, бытуе на Палессі. Растлумачыць гэта можна, мабыць, тым, што ў палескіх балотах вадзілася мноства самых розных гадаў. А паводле вуснапаэтычнага эпасу, менавіта там, у балотах, жылі чэрці і іншыя здані, а розныя с[illegible]і, вароны, рэптыліі пры[illegible]валі ім. Але ў народзе бытуе нямала апавяданняў, дзе вуж паказаны, як нейкая паўчароўная істота, якую ўсё яшчэ баяцца зачапіць, бо тым самым могуць наклікаць на [illegible]е нямілась. Так, у навак[illegible] Кобрына забойства вужа лічылася вялікім грэхам, а П. Сямёнаў у 1882 годзе пры апісанні беларускага Палесся заўважыў, што ў мястэчку Лаўрыкі народ абагаўляе чорных вужоў.

Даволі часта можна пачуць розныя гісторыі пра «дамашніх» вужоў. З іх вынікае, што жылі яны ў хатах і пунях, гаспадыня заўсёды карміла іх свежым малаком і ні ў якім разе не выкідала з хаты галоднымі, бо тады на яе магло найсці вялікае гора. Часам вужы падпаўзалі да стала, за якім абедалі людзі, тады і ім, як паўнапраўным членам сям'і налівалі ў міску, што на такі выпадак заўсёды стаяла пад сталом. Расказваюць таксама, што вужы самі маглі «даіць» карову, прылаўчыўшыся рабіць гэта перад прыходам гаспадыні, болей таго, старыя людзі нават да гэтага часу ўспамінаюць аб вужах-пастухах, якія не давалі каровам разыходзіцца ў розныя бакі поля.

Аднойчы расказалі і такую цікавую легенду. У селяніна ў хаце жыў «дамашні» вуж. Кармілі яго малаком, з хаты выносілі пагрэцца на цёплае сонейка і ніколі не кладліся спаць, пакуль ён не прыпаўзаў на сваё месца пад печчу. Дзеці таксама вельмі прывыклі да яго і гулялі з ім, як з жывой цацкай. А вуж, са свайго боку, сачыў за тым, каб малыя нікуды не залезлі, не нарабілі шкоды. Гаспадар смела пакідаў дзяцей на свайго «дамашняга служку», ведаючы, што ён не пусціць іх далёка ад сябе. Аднаго разу старэйшыя паехалі на балота зграбаць сена, а было гэта даволі далёка ад сядзібы, і дома засталіся толькі малыя і вуж. Прыехаўшы позна вечарам дахаты, селянін здзівіўся: вуж не сустракаў яго ля парога, як гэта было раней, не было відаць і дзяцей. Калі перапалоханых малых знайшлі і знялі з гарышча, то тыя расказалі бацькам жахлівую гісторыю. Перад абедам яны гулялі з вужом на пяску. І раптам той невядома чаго захваляваўся: пачаў пагрозліва шыпець на іх, адганяць у бок хаты. Малыя не разумелі, чаго ён хоча, пакуль не заўважылі непадалёку ад сябе вялізную гадзюку, што паўзла да самага меншага з дзяцей, які весела корпаўся ў пясочку. Яшчэ хвіліна і... Але ў гэты момант на гадзюку напаў вуж, паміж імі пачалася бязлітасная бойка. Малыя за гэты час паспелі адбегчыся і сталі чакаць. Доўга вужа не было. Нарэшце яны заўважылі яго. Увесь зранены, пакусаны, ён ледзь поўз і ўсё ж па-ранейшаму шыпеў, быццам бы папярэджваў дзяцей, каб не падыходзілі да яго, а схаваліся да прыходу бацькоў. Дапоўзшы да сярэдзіны двара, вуж скруціўся ў колца і сканаў. На месцы гэтага незвычайнага паядынку гаспадар знайшоў гадзюку, якая па сваіх памерах была намнога большай за іх «дамашняга» вужа...

Вось такія займальныя звесткі аб колішнім пакланенні звычайнаму вужу дайшлі да нас. Слухаць такія былічкі заўсёды вельмі цікава і карысна, бо яны раскрываюць перад намі багаты духоўны свет беларусаў у мінулым і разам з тым падкрэсліваюць любоў народа да сваёй роднай прыроды, да ўсяго жывога.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**



**З'яўленне ў Мінску ласёў стала ўжо амаль звычайнай справай. Наведваючы горад, яны дастаўляюць часам шмат клопату. Некалькі гадоў назад, напрыклад, адна жывёліна трапіла ў... прадуктовы магазін. Нямала намаганняў прыклалі гарадскія службы, каб выправадзіць няпрошанага госця.**

**Для такіх візітаў у горад па традыцыі ласі выбіраюць чамусьці вясну. Скажам, мінулай адзін з лясных веліканаў аблюбаваў Троіцкае прадмесце.**

**А вось зусім нядаўна, у пачатку мая, на працягу некалькіх дзён тры ласі з'яўляліся на ўскраіне Мінска з боку Віцебскай шашы, нібы падбіраючы момант для візіту ў беларускую сталіцу.**

**Затое двое іншых, якія прыйшлі з боку Ракаўскай шашы, былі больш смелымі. Яны апынуліся ля павільёна будаўнічай выстаўкі на праспекце Машэрава. Жывёліны амаль не звярталі ўвагі на людзей, ахвотна «пазіравалі» фатографам.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## ТАМ КАЛЯ МЛЫНА




**Там каля млына**
**Цвіла каліна.**
**Дзе ж тая дзяўчына,**
**Што мяне любіла!**

**Не так любіла,**
**Як жалавала,**
**Купіла коніка —**
**Падаравала.**

**А той конічак,**
**Быстрыя ногі,**
**Вёз мяне да мілай,**
**Зблудзіў з дарогі.**

**Ані сцяжынкі,**
**Ані дарожкі.**
**Паедзем, коніку,**
**Аж да варожкі.**

**— З кім мая міла**
**Ручанькі звяжа,**
**З кім мая мілая**
**Спатанькі ляжа!**

**— Ой, ляжа, ляжа**
**Сама з сабою,**
**Белыя ручанькі**
**Пад галавою.**

## СПОРТ

Такога яшчэ не ведала гісторыя падобных турніраў: тры савецкія клубы — СКА (Мінск), «Гранітас» (Каўнас) і ЦСКА (Масква) сталі ўладальнікамі ўсіх еўрапейскіх Кубкаў па гандболу.

Асабліва цяжка прыйшлося беларускім спартсменам. Яны гулялі з чэмпіёнамі еўрапейскіх краін. І тым прыемней перамога. За ўвесь турнір мінчане толькі адну сустрэчу звялі ўнічыю, а ўсе іншыя выйгралі. У рашаючым матчы СКА двойчы абыграў польскую каманду «Выбжэжэ»: 32:24 і 30:25.

Працягваючы тэму кубкавых сустрэч, адзначым поспех футбалістаў мінскага «Дынама». Яно перамагло ў апошнім туры маскоўскае «Тарпеда» з лікам 3:2 і выйшла ў паўфінал.

Вось ужо на працягу многіх гадоў запар не ведае паражэнняў зборная каманда СССР па вольнай барацьбе. І таму яе перамога на чарговым чэмпіянаце Еўропы ў Фінляндыі стала традыцыйнай. За зборную нашай краіны выступаў і віцябчанін Ігар Каныгін.

Ад спаборніцтва да спаборніцтва расце майстэрства веласіпедыста з Оршы Ігара Сумнікава. Апошняя прыемная навіна прыйшла да нас з Парыжа. Беларускі спартсмен змог стаць пераможцам буйных спаборніцтваў на прыз мнагадзённай гонкі «Рубэн Граніцье Брэтон».

Галоўны прыз, але ўжо па цяжкай атлетыцы, заваяваў на міжнародным турніры на Кубе мінчанін В. Шаўчык.

Завяршым наш кароткі спартыўны агляд апошнім паведамленнем з ЗША. Тут прайшлі міжнародныя спаборніцтвы па веславанню «Вясенняя рэгата». У ліку пераможцаў мінчанкі Надзея Сугака, Марына Пегава і Алена Макушкіна.



**Шасцікласнік Віця ФОМЧАНКА вучыцца ў дзіцяча-юнацкай спартыўна-тэхнічнай школе Мінска, займаецца суднамадэлізмам. Ён удзельнічае ва ўсесаюзных і рэспубліканскіх спаборніцтвах.**

Фота Г. СЯМЁНАВА.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 813